Маладзёвы Весьнік

№4(9) Сакавік 1998 Выданьне Маладога Фронту

# ДЗЕНЬ ВОЛІ

Кажуць, як новы год сустрэнеш, так яго й правядзеш. 79-ы год беларуская моладзь сустрэла шматтысячным шэсьцем. І іншыя акцыі ў той год — ты памятаеш — былі шматтысячнымі. 80-ы таксама віталі на вуліцах. Але цяпер было інакш — лілася кроў. Ня толькі нашая. І потым яе ўжо не пасьпявалі змываць з твараў і рук.

Хутка пачнецца 81-ы. Зразумела, ад абвяшчэньня БНР. Іншыя пункты адліку для нас ня важныя. Бязбожны рэжым хай сабе застаецца ў 1998. Ён існуе й сканае ў чужым часе. Мы, дзякаваць Богу, жывем у сваім.

Штовесну прырода скідае зь сябе лядовыя кайданы й вольна пачынае новы жыцьцёвы кругабег. Штовесну маладая Беларусь адкрывае новую пару свайго станаўленьня. Старонкі гістарычнай хронікі штовесну гартае моладзь.

Напярэдадні сэрца б'ецца мацней. Грае кроў. Воля спакусьліва ўсьміхаецца. Ноччу зоры гараць ярчэй. Хутка пачнецца Дзея.

Ня думай аб мінулым. І аб будучыні. Пазбаўся сумневаў. Проста ўстань і выйдзі на вуліцу. Удыхні марознае яшчэ паветра. Глыбей! Расьцісьні абцасам апошні лёд. Што, адчуваеш? Нешта ўладнае, цёплае падымаецца з глыбіні, працінае грудзі, напружвае мускулы, б'е ў галаву, запальвае вочы. Натуральна, гэта Яна. Будзь зь Ёю сёньня. Ня ты абіраеш — Яна абірае цябе.

Бо гэта Яе дзень.

Дзень ВОЛІ.

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ**

■ *І цікавіла яго ня блізкая да таго мястэчка заходняя мяжа. Ён ехаў з сакрэтнай місіяй. Урэшце, яму даручылі сапраўдную Справу.*
**Ды-джэі Адраджэньня: Сьвіслацкі сьлед – ст. 6**

■ *"Добрый вечер",— борзда завoдзіў мужчына тэнарам. "Здравствуйте, товарищи!"— жвава падхоплівала рэпам жанчына.*
**Лялька Маша, лялька Міша – ст.2**

■ *Грандыёзная акцыя не на жарт напалохала ўлады. Абласное ТБ паказала ролік з камэнтаром: "нацыянал-радыкалы запалохваюць грамадзтва".*
**Моладзь не баіцца — гэта рэжыму страшна – ст.7**

■ *Ці адрозьніваюцца хлопцы з Маладога Фронту ад усіх іншых? Калі так, чым?*
**Двубой – ст.4**

■ *"Прашу дазволіць мне шэсьце ад пл. Я. Коласа да пл. Незалежнасьці з нагоды дня майго нараджэньня."*
**Калёнка Шчукіна – ст.2**

■ *Напачатку ўсё выглядала даволі квола, і дзе-хто нават меркаваў, што ВВК — фальшыўка, утвораная сэрбскімі спэцслужбамі з правакацыйнымі мэтамі. Тым больш нечаканым было паведамленьне: ВВК выбіла сэрбскую паліцыю ды ўзяла ўладу на значнай частцы Косава.*
**Паўстаньне ў Косава – ст.3**

## ЗА КРАТАМІ



### Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

24 лютага засуджаны на паўтары гады пазбаўленьня волі за надпісы "Жыве Беларусь!", "Я люблю Беларусь!". Адсядзеў ужо паўгады пад сьледзтвам. Выкінуты з унівэрсытэту.

### Вадзім КАБАНЧУК

Схоплены пасьля акцыі супраць голаду й галечы. Абвінавачваецца ў зьбіцьці акупанта падчас акцыі 23 сакавіка 1997 г. У Вадзіма 23 сакавіка, роўна праз год, пачнецца судзілішча. **Мы заклікаем вас прыйсьці у 10:00 у гарадзкі суд** і падтрымаць маладога беларуса.

# ЛЯЛЬКА МАША, ЛЯЛЬКА МІША

*новы гіт палітпараду*

Ура, дарагія мае чытачы. Ну вось, дачыталіся мы з вамі, дачакаліся новага супэргіта ў Палітпарадзе'98. За "восеньню" патрыярха Шарэцкага й "Алікам, які хоча ў Тамбоў", надыйшоў гіт цёпленькі й сьвежы, як вясна, і яго адразу, навыперадкі, выдалі ўсе расейскія тэлеканалы. "Лялька Маша, лялька Міша",— сьпявалі, ох як дружна сьпявалі нейкія папулярныя мужчына й жанчына — суладна, быццам серп і молат, быццам рабочы й калгасьніца, быцца колішнія вядучыя праграмы "Время" — памятаеце? "Добрый вечер",— борзда заводзіў мужчына тэнарам. "Здравствуйте, товарищи!"— жвава падхоплівала рэпам жанчына.

Так, час прыходзіць і сыходзіць. "Время" застаецца. Вось яно, на першым канале, на ОРТ, тое ж самае маскоўскае "Время" часоў генэральнага сакратара. Толькі цяпер замест "генсека" генэральны дырэктар, Беразоўскі. А замест рабоча-калгасьніцкае парачкі — адзіная вядучая з сымпатычным прозьвішчам Шарапава, і працуе яна то як калгасьніца, то як інтэлігентка, то як лякаваная дэмакратка, і рэпам, і рокам, і бокам, і з падскокам — карацей, то як Жэглоў, то як Шарапаў. У залежнасьці ад таго, якую ролю дасьць на сёньняшні вечар гаспадар батлейкі. Падняць Чубайся. Апусьціць Лебедзя. А зь Беларусі ўвогуле не даваць анічога, мы ж з Сашам дамовіліся...

Правільна. Нездарма Карабас Беразоўскі прывозіў сюды на фуршэт да Сашы ўсю трупу. Усіх лялькаў — Ксюшу Панамарову (ОРТ), Міколку Сванідзэ, Эдзічку Сагалаева (РТР), Вовіка Гусінскага (НТВ). Тут іх наш трудзяга, наш Тата Карла (...Маркса, 38) трохі абгабляваў, падладзіў — і на ўзор свайго, самаробнага, бэтэшнага, хударлявага й драўлянага, але даўганосенькага.

Глядзіце, як пастараўся. Беларуская апазыцыя — малалетнія хуліганы, ну проста аматары папуляць з рагаткі. Беларуская эканоміка дэманструе відавочныя посьпехі. Анягож! І ўвогуле, усё ў іх там, в Минске, у парадку. Гэта вось у Рызе недабітыя эсэсаўцы б'юць нашых вэтэранаў, ну хоць ты газ перакрывай.

Словам, лялькі. Прыгожыя, бліскучыя да глянцу лялькі. Штовечары на НТВ. Штодня на РТР. А на ОРТ дык увогуле штогадзіны. Лялька Міша, лялька Маша. Мальвіна Шарапава, Арлекін Дарэнка, яшчэ хтосьці ў ролі пудэля Артамона. Публіка ўжо ля экранаў... Заслона. Хвілінку, гэта рэклямная паўза.

Пісучы ШУСТРЫК



# КАЛЁНКА КАПІТАНА ШЧУКІНА

Жах, якія груваасткія аргкамітэты паставарала апазыцыя для сьвяткаваньня 80-га Дня Волі! Паўсотні — ад БНФ, яшчэ болей ад "былых", тут жа Статкевіч, тут жа...

Не, Шчукін ня зь імі. Ён, як і кожны грунтоўны прыхільнік марксызму-ленінізму, пойдзе сваім шляхам. На 22-га сакавіка Валер Аляксеіч падаў сваю ўласную заяўку. "Прашу дазволіць мне шэсьце ад пл. Я. Коласа да пл. Незалежнасьці з нагоды дня майго нараджэньня."

Кажуць, Чыкін у шоку. Яму так і мроіцца чырвоны дзень каляндара: 22-га сакавіка, Дзень Нараджэньня В. Шчукіна. Паглядзім, які падарунак падрыхтавалі капітану да юбілею былыя партыйныя таварышы.

Х. ЗЭК

# НАШ АДКАЗ ЧЭМБЭРЛЕНУ

Аказваецца, Лі Харві Освальда ведаюць не адно ў Менску. Прыемная нечаканасьць. Разгортваючы алімпійскую страляніну памяці Лі, мы й ня думалі, што так трапна пацэлілі. ОРТ, беларуская пракуратура, швэдзкія сацыял-дэмакраты й мадагаскарскія будысты дружна адгукнуліся на бабаханьне ў штабкватэры БНФ 01.03.98.

Як мне ўдалося даведацца з канфідэнцыйных крыніцаў, Освальд тут не павінны. І Кенэдзі, зрэшты, таксама не прычым. Рэч у тым, што для 200 мільёнаў гледачоў ОРТ у вечаровым тэлеэфіры вельмі файна ўспрымаюцца белакурыя беларускія хлопцы, якія кулю за куляй засаджваюць кудысьці за кадар. Тытры ўнізе: "Беларусы рыхтуюцца да саюзу з Расеяй"

J. F. KENNEDY
адмыслова для МВ
Dallas—Менск

# ПАЎСТАНЬНЕ Ў КОСАВА

*у Косава адбыліся збройныя сутыкненьні паміж альбанскім насельніцтвам і сэрбскім войскам*

Апошнім часам увага сусьветнае грамадзкасьці йзноў прыцягнутая да Бальканаў. Гэтым разам эпіцэнтрам падзеяў стала Косава — рэгіён, што месьціцца на сумежжы Альбаніі, Македоніі й Сэрбіі, ды ўваходзіць у склад апошняй. Тут у чарговы раз адбыліся сутычкі паміж сэрбамі й альбанцамі. Пераважная бальшыня насельніцтва краю (каля 90 адсоткаў)— альбанцы, але сэрбы сьцьвярджаюць, што да турэцкай акупацыі менавіта яны былі асноўнымі насельнікамі Косава, і лічаць гэтую тэрыторыю гістарычна сваёй. Падчас асманскага панаваньня на Балканах альбанцы-мусульмане былі ў становішчы значна выгоднейшым за сэрбаў, ня рэдка займаючы высокія дзяржаўныя пасады імпэрыі. Таму нянавісьць паміж гэтымі двума народамі мае глыбокія карані. Яшчэ напачатку развалу Югаславіі, у Косава адбыліся хваляваньні: альбанцы патрабавалі аддзяленьня краю ад Сэрбіі, але пагрозай зброі сэрбскі ўрад іх суцішыў. Больш таго, у якасьці помсты, Бялград скасаваў аўтаномію гэтага рэгіёну, і косаўскія альбанцы страцілі магчымасьці самаўрадаваньня. У напружаным зацішшы высьпяваў новы выбух.




Апроч легальнага Дэмакратычнага Зьвязу Косава ўзьнікла радыкальная арганізацыя Вызвольнае Войска Косава, якая правяла некалькі дывэрсійных апэрацыяў супраць сэрбскае дзяржавы. Напачатку ўсё выглядала даволі квола, і дзе-хто нават меркаваў, што ВВК — фальшыўка, утвораная сэрбскімі спэцслужбамі з правакацыйнымі мэтамі. Тым больш нечаканым было паведамленьне: ВВК выбіла сэрбскую паліцыю ды ўзяло ўладу на значнай частцы Косава.

Тэрмінова сфармаваны з вайсковых і паліцэйскіх спэцаддзелаў корпус быў сьпешліва кінуты на паўстанцаў. Тыя ж імкнуліся ўхіліцца ад удару, аддаючы перавагу партызанскай тактыцы. Падчас "зачыстак" населеных пунктаў сэрбскія жаўнеры ставіліся да чужамоўнага ім альбанскага насельніцтва па-зьверску. У выніку каля сотні (дакладнага ліку вызначыць немагчыма) мірных жыхароў былі забітыя.

Ледзь толькі сьцішыліся гукі стрэлаў і сэрбскія генэралы паведамілі пра пасьпяховае заканчэньне апэрацыі, у адміністрацыйным цэнтры краю Прышціне, нягледзячы на забарону ўладаў, адбылася буйная антысэрбская дэманстрацыя, арганізаваная ДЗК. Узмоцнены вайскова-паліцэйскі аддзел быў кінуты на разгон. Былі вадамёты, сьлезацечныя газы, кулі... Загінула каля 20 чалавек з абодвух бакоў.

Гэтыя падзеі выклікалі шырокі розгалас у сьвеце. Бальшынёю буйных дзяржаваў дзеяньні сэрбскага ўраду былі асуджаныя. (Выняткам, як і чакалася, сталі дзьве краіны — Расея й Кітай. Першая маючы на ўвазе Чачэнію, другая — Тыбэт). Аднак аднначасова ВВК было абвешчанае тэрарыстычнай арганізацыяй, і таму прадстаўнікамі альбанскага насельніцтва сусьветная супольнасьць хутчэй за ўсё прызнае Дэмакратычны Зьвяз Косава. Зараз ААН спрабуе наладзіць перамовы паміж косаўскімі альбанцамі й сэрбскім урадам, але пакуль беспасьпяхова. Надта далёкія пазыцыі ў варагуючых бакоў.

# НЯЎДАЛАЯ "РЭВАЛЮЦЫЯ" Ў ЛАТВІІ

У Рызе каля трох сотняў пэнсіянэраў-эсэсэсэрнікаў пікетавалі будынак парляманту, патрабуючы размовы з дэпутатамі. Размова, мусіць, не атрымалася, бо разьятраныя старыя вырашылі перакрыць рух на вуліцы. Вось тут "рэвалюцыянэры", якія шматкроць выстаўлялі пікеты ў падтрымку А. Лукашэнкі, у тым ліку й тады, калі ў Менску зьбівалі дэманстрантаў, сваімі каркамі паспыталі гумовых дубінак.

Хоць зьбітыя саветафілы маюць рэпутацыю выкапнёвых маньякаў нават сярод большасьці расейскамоўнага насельніцтва Латвіі, рыскі мэр, як і належала ўрадніку цывілізаванае дзяржавы, выказаў незадаволенасьць жорсткасьцю паліцыянтаў і ўзьняў пытаньне пра адстаўку кіраўніка муніцыпальнае паліцыі.

Тымчасам Масква не абмінула зручнае падставы і разгарнула антылатвійскую прапаганду, абвінавацiўшы гэтую краіну ў парушэньні правоў асобы, ды ў чарговы раз заявіла, быццам мае права на ўмяшальніцтва ў справы Латвіі, дзеля таго, што там ёсьць расейскамоўнае насельніцтва.

*Воля — роду жаночага. Першае, што зьдзіўляе далёкіх замежных гасьцей у вясновым Менску — гэта дзяўчаты на маніфэстацыях, баявыя нашыя беларусачкі. "Вам бы яшчэ й адпаведных мужчынаў..." — дасадліва кажа грузін Кікабідзэ "Народнай Волі". "Так-так, штосьці вашыя хлопцы хліпкаватыя" — чачоткай падтаквае чачэн Эсамбаеў у "Камсамолцы". "А то ж,— змрочна ківае беларус Адамовіч у "Нашай Ніве",— нават рукі як сьлед не паціснуць..."*



Ну што, пакрыўджаныя хлопцы? Глядзіце на дзяўчатаў. Сустракайце: у сёньняшнім нумары — у левым куце рынгу Міс Малады Фронт'98, намесьніца старшыні Заводзкае рады **Натальля МАКОВІК** — і, канешне ж, Воля, **Вольга АНЦЫПОВІЧ**, сябра Управы, канцлер Культурніцкага аддзелу, будучая журналістка, яна справа.



**Ці магла б жанчына ўзначаліць БНФ "Адраджэньне"? У якіх умовах?**

Вы ўяўляеце, як тады будуць выглядаць газэтныя загалоўкі? Напрыклад, пасьля выбараў у Беларускім Народным Фронце: "Жанчыны пайшлі на Фронт!" альбо "Вылучаная самая народная (публічная?!) жанчына" Але калі мужчыны з БНФ здолеюць нарадзіць дзяцей, наглядаць за імі й адначасова ўпрыгожваць сямейны кут, то мы, як моцная палова чалавецтва ўрэшце зоймемся самай балбатлівай прафэсіяй — палітыкай.

Магла б, але не ўзначаліць, бо жанчына стварэньне тонкае, узьнёслае, незвычайнае. Таму яна проста знойдзе патрэбнага мужчыну (гэта значыць — сапраўднага, мужнага, адданага) і зрабіць яго старшынём БНФ "Адраджэньне". А той абавязкова прывядзе Фронт да перамогі. Таму, што ўсё, што робіцца ў сьвеце, робіцца ці жанчынамі, ці дзеля іх.

**Вы хочаце аддаць перавагу ў сваім далейшым жыцьці палітыцы, сям'і ці іншаму?**

Калі ня будзеш займацца палітыкай, то яна зоймецца табой. Таму ў сваёй сям'і я выхаваю мужа, які стане прэм'ер-міністрам Беларусі.

У сваім жыцьці перавагу я аддам, зразумела ж, сям'і. Але я вельмі хачу, каб мая сям'я жыла ў цывілізаваным грамадзтве, самастойнай краіне, незалежнай дзяржаве. А для гэтага трэба ня проста цікавіцца палітыкай, але і вельмі актыўна ў ёй удзельнічаць. Менш за ўсё хачу займацца палітыкай дзеля самой палітыкі. Я проста хачу нармальна жыць.

**Ці адрозьніваюцца хлопцы з Маладога Фронту ад усіх іншых? Калі так, чым?**

Напэўна, адрозьніваюцца. У маладафронтаўца ёсьць стопрацэнтовая магчымасьць стаць беларускім прэм'ерам.

Адрозьніваюцца! І пры тым усім... Бо маладафронтавец — гэта стан душы, а не пасада ці званьне. Хочацца верыць, што ўся моцная палова Маладога Фронту сапраўды сьмелыя, перакананыя, упэўненыя, самастойныя людзі. Я вас вельмі ўсіх люблю.

**Як павінны быць разьмеркаваныя абавязкі ў ідэальнай сям'і?**

Ведаеце, за кожным моцным мужчынам стаіць вельмі моцная жанчына. Таму ў ідэальнай (гэта значыць — маёй) сям'і камандаваць павінная жонка. Але выглядае ўсё так, быццам самы галоўны, разумны й самы непаўторны — мужчына. Такім чынам, я буду кіраваць і кантраляваць, дзеткі выконваць, а муж ганарыцца намі.

У ідэальнай сям'і абавязкі павінныя быць разьмеркаваныя на грунце поўнай дэмакратыі з захаваньнем канстытуцыйнага права на свабоду думкаў, сходаў, веравызнаньня, выказваньня й дэманстрацыяў.

# БЕЛАРУС — БРАТ СТАРЭЙШЫ

*прамова ў абарону помнікаў культуры, бяскультур'я й садаводзтва*

1-3 сакавіка ідэйныя ленінцы, пераадолейшы ўсе цяжкасьці астэахандрозу, рэўматызму, склерозу ды іншых набытых на будове камунізму хваробаў сабраліся ў нашай сталіцы, каб парадавацца з нагоды сотых угодкаў I зьезду Расейскай Сацыял-Дэмакратычнае Рабочае Партыі, які, як ведама кожнаму піянэру, адбыўся ў Менску. Прыехалі прадстаўнікі тузіна расейскіх камуністычных арганізацыяў. Яшчэ да нядаўняга часу яны адчувалі сябе гаспадарамі камунізму, і хоць з усёй шчодрасьцю расейскае душы раздавалі яго ўва ўсе бакі, ніхто не забываўся, што сапраўдны камунізм робяць толькі ў Маскве. Беларусы атрымалі асаблівы падарунак: ім было дазволена трымаць у сябе домік I зьезду РСДРП, не забываючыся на тое, канешне, што яна (партыя) расейская. Так было яшчэ на мінулым юбілею, у 88 г. Але зараз сытуацыя радыкальна зьмянілася: нязломны капэбэшнік Чыкін пачуваўся на цяперашніх мерапрыемствах гаспадаром, ды нават больш за тое — старэйшым братам. І ня дзіўна. Хто утрымаў ідэю бальшавізму? Расейцы? Мо' Зюганаў? Ды сьмеху варта! Прас...лі маскоўскія таварышы камунізм. Кінулі сьцяг сусьветнае рэвалюцыі ў бруд, каб не перашкаджаў грошы ў руках трымаць. А хто падняў? Адмыў, адпрасаваў, упрыгожыў зялёнаю паласой? Наш беларускі правадыр! Праўда, гойсаюць тут розныя, на сьценах пішуць, маўляў, не беларускі ён, але гэта ня важна, бо ён усеславянскі, ці на'т усясьветны. Зрабіў амаль немагчымае — спадабаўся і маскоўскім сталінскім артадоксам і кітайскім рэвізіяністам, жаўтаскурым дзецям Мао, і нават белабрысым славянскім нашчадкам Гітлера.

З зайздрасьцю глядзеў на нясломнае будаўніцтва камунізму-фашызму камарад Анпілаў. Кажа, тры краіны шчасьлівых засталося, тры старэйшых брата: Паўночная Карэя, Цукровая Куба, Савецкая Белорусьсія. Але Белорусьсія — найстарэйшы, найгалаўнейшы брат. Таму й домік стаіць у нас паводле справядлівасьці.



*Вось ён, родны кожнаму трударосу дом. Здымак веснавы, чарэшні квітнеюць!*

Праўда, скажу ціхенька, гэта ня той дом. Той згарэў падчас другой сусьветнай. А гэты ўжо ў 48 г. збацалі. А ў 53 г. і ўвогуле перанесьлі нахабна (раней ён далей ад Сьвіслачы быў). Вось гэтак са сьвятыняю!

А калі ўрэшце сур'ёзна, карысьць ад доміка ё. Там чарэшні пасаджаныя. Аўтар, у пару свайго шчасьлівага дзяцінства (дзякуй за гэта мне самому), зьбіраў яе там кіляграмамі, не зважаючы на вартаўніка. А вартаўнік піў гарэлку, не зважаючы на мяне. Дык ня будзем руйнаваць доміка, хай дзеці радуюцца!

К. ПЭБЭШНІЧ

# ДЫ-ДЖЭІ АДРАДЖЭНЬНЯ: СЬВІСЛАЦКІ СЬЛЕД

*расповед знакамітага адраджэнскага дзеяча рэкамэндуецца для тых, хто рыхтуецца стаць ды-джэем Адраджэньня*

Адным пятнічным ранкам, а дакладней, зусім ня ранкам, каля 16 гадзінаў, на адным зь менскіх аўтавакзалаў можна было ўбачыць невысокага хлопца ў скураной куртцы зь вялікім і, напэўна, цяжкім заплечнікам. Прыкладна а палове пятай ён сеў у аўтобус, і да нядзельнае раніцы ў Менску яго больш ніхто ня бачыў.

Аўтобус тымчасам ішоў да райцэнтру Сьвіслач Горадзенскае вобласьці. Хлопец, назавем яго дзеля зручнасьці Аляксеем, ехаў менавіта да апошняе станцыі. І цікавіла яго ня блізкая да таго мястэчка заходняя мяжа. Ён ехаў з сакрэтнай місіяй. Урэшце, яму даручылі сапраўдную Справу. Канешне, правесьці Шоў Беларушчыны важная, карысная й нялёгкая праца, але ж і Аляксей ёсьць чалавекам адукаваным ды выхаваным — чытае "Маладзёвы Весьнік", і, вядома, падрабязна вывучыў праграмны артыкул Шэфа Культурніцкага Спэцаддзелу "Ды-джэі Адраджэньня", у якім недвухсэнсоўна было акрэсьлена месца маладога адраджэнца — за ды-джэйскім пультам. І адной з мэтаў вандроўкі было правядзеньне беларускай дыскатэкі. Аўтобус вёз хлопца насустрач блізкаму трыюмфу "беларускага дыска".

Субота пачалася ня вельмі ўдала, дакладней, зусім дрэнна. Яму адмовілі ў правядзеньні Шоў Беларушчыны ў СШ №1, спаслаўшыся на таемны сыгнал з РАНА, што нібыта прыйшоў праз тэлефонныя камунікацыі. Счакаўшы паўгадзіны, Аляксей насьцярожана скіраваўся ў СШ №2, дзе была папярэдне дасягнутая згода на правядзеньне Шоў Беларушчыны перад старэйшымі клясамі. Сюды, як высьвятлілася, РАНА не сыгналіла, і ў хуткім часе хлопец ужо задаваў свае менскія пытаньні звычайным заходнебеларускім адзінаццаціклясьнікам у актавай зале. Ужо пасьля першага выступу ён быў уражаны высокім узроўнем ведаў школьнікаў. А гэта быў толькі пачатак! Тры адзінаццатыя клясы зьмянілі тры дзясятыя й правільныя адказы абрынуліся на Аляксея, быццам густы студзеньскі сьнег.

Але ўсіх пераўзышлі дзявятыя клясы, якіх, як гэта ня дзіўна, было таксама тры (тэндэнцыя, зразумеў Аляксей). За сорак хвілінаў яны пасьпелі адказаць ня толькі на пытаньні Шоў Беларушчыны, Тэста на эрудыцыю, Брэйн-рынгу і частку "Нашага Менску", але й на шэраг выдуманых хлопцам проста падчас правядзеньня імпрэзы пытаньняў. Пераможца набраў 22 балы! Пачатак быў вельмі ўдалы. Наперадзе была дыскатэка. Адно трохі непакоіла Аляксея: на пытаньні датычныя музыкі вучні знаходзілі адказы вельмі марудна, дый тое з дапамогаю настаўнікаў. Але нягледзячы на гэта, агульны настрой у хлопца быў выдатны.

Колькі гадзінаў да пачатку дыскатэкі Аляксей вырашыў прысьвяціць агляду мясцовасьці. Выйшаўшы на вуліцу, ён скіраваўся ў цэнтар, дзе пабачыў шмат цікавага: помнікі кіраўнікам беларускага паўстаньня 1863-1864 гг. Траўгуту ды Каліноўскаму, кіраўніку расейскага пераварота 1917 г. Леніну, а таксама РДК, выканкам, а ўрэшце краязнаўчы музэй.

*Працяг будзе.*

**Аляксей СЬВІСЛАЦКІ**

# МОЛАДЗЬ НЕ БАІЦЦА —

*паводле прэс-рэлізу*

Ганебнае судзілішча над актывістамі Маладога Фронту 16-цігадовым Вадзімам Лабковічам і 19-цігадовым Аляксеям Шыдлоўскім, а таксама турэмны лёс Вадзіма Кабанчука не пакінулі абыякавай моладзь ува ўсёй Беларусі. Першы вынік стыхійнага пратэсту — новыя хвалі графіці на сьценах беларускіх гарадоў і мястэчкаў. Найбольш ярка маладзёвае абурэньне выбухнула ў Магілеве.

Ноччу 11-12 сакавіка, калі з-за дрэннага надвор'я міліцыя пахавалася па акалотках, увесь Магілеў быў спрэс расьпісаны невядомымі маладымі людзьмі. На будынках усіх раённых судоў горада зьявіліся надпісы "Свабоду палітвязьням!", "Свабоду Шыдлоўскаму і Кабанчуку!" на інстытуцкіх і некалькіх школьных карпусох: "Моладзь за Беларусь!", "Беларусь у Эўропу!". Увесь цэнтар горада й пяць мікрараёнаў былі абклееныя ўлёткамі МФ.

На пяцёх помніках Леніну зьявіліся надпісы "кат". Каля вэртыкальнае кантоpы ўсяе Магілеўшчыны й будынку КГБ маладыя магілеўцы пакінулі размашыстыя аўтографы для свайго галоўнага земляка: "Лукаша за краты", "Фашызм — Лукашызм", "Лука — вон зь Беларусі!", а таксама "Rape the president".

Ужо зранку 12 сакавіка магілеўскі выканкам мусіў утварыць спэцыяльную камісію з прадстаўні-

# УСІХ НЕ ПЕРАСАДЖАЕЦЕ!

*менавіта гэты лёзунг быў стрыжнем усіх апошніх акцыяў у падтрымку палітвязьняў*

НАВАПОЛАЦАК:

Пікеты Маладога Фронту ў абарону Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага й Вадзіма Кабанчука адбыліся 7 і 8 лютага.

Наваполацкія маладафронтаўцы трымалі плякаты з патрабаваньнем вызваленьня са сьледчага ізалятара ў Менску трох сваіх аднагодкаў — ахвяраў рэжыму Лабковіча, Шыдлоўскага, Кабанчука.

На пікеце прысутнічала "дэлегацыя" з МУС, якая вельмі экзатычна выглядала ў сваіх пярэстых камуфляжных вопратках. Яны нэрвова шпацыравалі вакол пікетоўшчыкаў, зрэдку правяраючы ў іх дакументы й перапісваючы зьмест плякатаў. Сытуацыя для іх была ўпершыню такою незвычайнаю — дазвол ёсьць, хапаць ня трэба нікога.

Асноўная маса электарату, што падыходзіла і цікавілася, ставілася да удзельнікаў цалкам станоўча. Распытвалі, што ды як, бралі ўлёткі й газэты, доўга стаялі, і зьдзіўляліся, чаму яны бясплатныя.



*Адна са шматлікіх акцыяў у абарону палітязьняў*

Карацей, усё прайшло амаль без эксцэсаў, калі ня ўлічваць часовага затрыманьня "ахоўнікамі парадку" аднаго з актыўных удзельнікаў акцыі. Яго пасадзілі ў машыну і там задавалі вельмі разумныя пытаньні, кшталту: "А што ты тут робіш? хто цябе паклікаў? колькі грошай далі?".

Усіх не перасаджаеце. А пасьля прыдзе наш час.

**Алесь НІКАЛАЎ**

*P.S. Дарэчы, у Наваполацку адбыўся турнір па алімпійскім брэйн-рынгу, упершыню на беларускай мове, у якім ўдзельнічала 16 школьных камандаў горада.*

МЕНСК:

У той час, калі ва Ўправе БНФ праходзіла чарговае паседжаньне Цэнтральнае Рады Маладога Фронту, на плошчы Я.Коласа праходзіў пікет у абарону маладых ахвяраў рэжыму — Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Кабанчука. Актыўны ўдзел у акцыі прымалі ня менш за сотню сябраў БНФ. Людзі трымалі плякаты "Свабоду палітвязьням", "Лукашэнку — у адстаўку", іншыя тлумачылі зацікаўленым грамадзянам сытуацыю. Таксама былі прадстаўнікі Маладога Фронту, якія зьбіралі подпісы за вызваленьне хлопцаў і за адстаўку лукашэнкі, зьбіралі сродкі для сем'яў хлопцаў. Пікет быў дазволены гарвыканкамам, таму сутычак зь міліцыянтамі не было. Адзінае, што не спадабалася міліцыянтам, дык гэта бел-чырвона-белыя сьцягі ў руках некаторых пікетоўшчыкаў. Але рашучых дзеяньняў яны вырашылі не прадпрымаць: пахадзілі па плошчы, перапісаўшы ўсе лёзунгі на плякатах і зьніклі ў невядомым кірунку.

Суд над хлопцамі пачаўся 18 лютага ў менскім абласным судзе, а скончыўся 24 лютага жорсткім прысудам — 2 гады ўмоўна Вадзіму Лабковічу і 1,5 гады зьняволеньня Аляксею Шыдлоўскаму.

Малады Фронт заклікае ўсіх прыйсьці на суд над Вадзімам Кабанчуком, які хутка адбудзецца, і падтрымаць хлопца, які ў свае 23 гады сядзіць шосты месяц за тое, што любіць Беларусь. Чым болей вас будзе на судзе – тым болей у Вадзіма шанцаў выйсьці на волю.

**Цімох ДРАНЧУК**

# ГЭТА РЭЖЫМУ СТРАШНА!

*Маладога Фронту*

коў трох раённых сілавых структураў дзеля барацьбы з графіці. Цэлы дзень надпісы замазвалі, увесь горад пакрыўся белымі плямамі. На вуліцах зьявіліся ўзмоцненыя патрулі — столькі міліцыянтаў Магілеў яшчэ ня бачыў.

Але ў наступную ноч, на пятніцу, 13-га, няўлоўныя патрыёты нанесьлі паўторны ўдар рэжыму: на сьвежых прабелах зьявіліся яшчэ больш радыкальныя надпісы.

Грандыёзная акцыя не на жарт напалохала ўлады. Абласное ТБ паказала ролік з камэнтаром: "нацыянал-радыкалы запалохваюць грамадства". Сакратар БПСМ выдаў заяву, дзе абвінаваціў маладых беларусаў у наўмысным разьдзіманьні жарсьцяў напярэдадні ўгодкаў БНР. Па факце беспрэцэдэнтнага росьпісу ўзбуджаная крымінальная справа.

Як бы не лютаваў рэжым, якімі б судамі й рэпрэсіямі не застрашваў моладзь, моладзь Беларусі будзе змагацца й пераможа.

Працэс Лабковіча-Шыдлоўскага й справа Кабанчука толькі распаляюць дух нацыянальна-вызвольнага супраціву.

Свабоду вязьням сумленьня! Жыве Беларусь!

**М.Ф.**

***P.S.** Ізноў расьпісалі Стоўбцы. Гэта вам за хлопцаў! Жыве Беларусь!*

# У гушчарах, затканых імглою...



- *На тэму сёньняшняга двубою:*

Дзяўчына кажа хлопцу:

— Калі ты хочаш са мною ажаніцца, ты павінны ня лаяцца, ня піць піва, не паліць, але павінны мыць посуд, падлогу...

— Каханая, і ты сапраўды выйдзеш за такога дэбіла?

- Прапаршчык камандуе:

— Рота, па-адняць правую нагу!

Адзін арыгінал падымае левую. Прапар глядзіць збоку і заўважае, быццам, ня тая нага.

— Якая морда падняла абедзьве нагі?

- У пастарунку дапытваюць жанчыну:

— Замужам?

— Але.

— Хто муж?

— Фабрыкант

— Дзеці?

— Не, мэбля.

- Эўрапеец кажа мурыну, які ляжыць пад пальмай:

— Ты б лепей залез на пальму набраў гарэхаў...

— Навошта?

— Прадаў бы іх, і набыў мех...

— Навошта?

— Набраў бы мех гарэхаў, прадаў, набыў тачку, потым набраў поўную тачку гарэхаў, прадаў, узяў бы сабе працаўнікоў. Яны б табе гарэхі зьбіралі, а ты б ляжаў!

— Ну дык я й ляжу...

- Лекар пацыенту:

— Зь сёньняшняга дню вам нельга піць, паліць і кахацца...

— Доктар, я ж мужчына!

— Ну, тады можаце галіцца

- На працу прымаюць маладзёна.

—У нас забаронена паліць!

— А я не палю.

— У нас забаронена піць!

— Я ня п'ю.

— Дык у вас увогуле няма ніякіх недахопаў?

— Ёсьць. Я хлушу.

- У прыёмны пакой уваходзіць бамбіза 3х3 мэтры і грымотным голасам кажа маленькаму сакратару:

— Скажыце свайму шэфу, што прыйшоў Джонсан.

— Дык вы сапраўды Джонсан? Як дзіўна!

— Што ж тут дзіўнага?

— Ды шэф сказаў, што, калі прыйдзе Джонсан, я павінны выкінуць яго з акна.

- У шынок забягаюць суслікі ў банданах і патрабуюць піва. Гаспадар зьбянтэжана, але наліў. Суслікі хутка выпіваюць.

— Чорт! Ніколі ня бачыў, каб суслікі піва пілі!

— І ня ўбачыш болей, жлобская морда,— адказваюць суслікі ў банданах.— З такімі коштамі!

**"Анэкдоты ад Чарняева"**

Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ
Адказны за друк: Ф. СКАРЫНА
Макетоўшчык: Page MAKER 6.5
Рэдакцыйная калегія: Павал СЕВЯРЫНЕЦ, Сяржук ПАЎЛЕНКА, Алесь АСІПЦОЎ, Аляксей ШЭІН, Яўген СКОЧКА, Віктар НЕСЕНЧУК, Цімафей ДРАНЧУК
Наклад: 299 асобнікаў
Тэл./Факс: 233-50-12